Przesyłka opłacona ryczałtem.

Nr 4 (100) | Чацьверг, 28-га Студня 1926 г. м. Вільня | Год III

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць адзін раз у тыдзень | Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 80 гр.
„ „ „ 3 „ 2 зл. 40 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі Адміністрацыі: Wilno; ul. Niemiecka 1 „Hotel Sokołowskiego“ pokój Nr 23. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11 — 1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.



# † ЯЗЭП САЛАВЕЙ
**(1879—1926 г.)**

З вялікім смуткам паведамляем аб сьмерці рэдактара-выдаўца нашай часопісі

## Язэпа Салаўя,

які памёр 21 студня г.г.

Сямье памёршага складаем шчырае спачуцьцё.

**Рэдакцыя „Грамадзкага Голасу“.**



Часовая Беларуская Рада паведамляе аб сьмерці свайго сябра, старога беларускага дзеяча

## Язэпа Салаўя,

які памёр на 48 гаду жыцьця — 21 студня г.г.

Сямье памёршага складаем сваё спачуцьцё.

**Прэзыдыум Рады.**

---

У чацьверг 21 сьнежня г.г. раптоўна памёр рэдактар нашае часопісі, Язэп Салавей.

Язэп Салавей памёр, як жаўнер на сваім становішчы. За пару мінутаў перад сьмерцю ён быў у рэдакцыі, гутарыў з намі, скардзіўся, што яму ў апошнія дні крыху не здаровіцца. Выйшаўшы ад нас, непадалёк ад рэдакцыі, упаў на вуліцы—кволае сэрца адмовілася далей служыць сваю службу.

Проста нешта дзіўна трагічнае ёсьць у гэтай сьмерці нашага змагальніка, ў гэтай сьмерці не на пярынах, на выгодным ложку, а сярод натоўпу людзкога, на вуліцы, скуль карэтка скорай помачы вязе яго астыўшы труп у моргу бальніцы.

Язэп Салавей быў адным з першых піонэраў беларускай справы. Распачаўшы беларускую нацыянальную працу ў першыя гады белар. Адраджэньня, ён быў адным з закладчыкаў Беларускай Соцыялістычнай Грамады. У часе царскага ўрада Салавей за сваю палітычную працу ня раз сядзеў у вастрозе. У той час беларусы змагаліся за сваю нацыянальную справу побач з братнім польскім народам. І вось мы бачым, як Язэп Салавей, яшчэ ў той час зразумеўшы супольнасьць інтарэсаў двух гэтых нацыяў, прымае ўдзел у рэвалюцыйным змаганьні за волю гэтых народаў у радах польскай партыі P.P.S.

Пачынаецца сусьветная вайна. Нямецкія войскі пагражаюць Вільні. І вось, у той час, калі нейкі панічны страх агартае ўсіх і кожны, хто можа, уцякае далей ад лініі фронту на ўсход, Язэп Салавей астаецца на сваім становішчы ў Бацькаўшчыне, разумеючы што ў гэткай цяжкай прыгодзе нельга пакідаць сваю старонку без актыўных беларускіх працаўнікоў. І калі прыйшлі ў Вільню немцы, мы бачым Язэпа Салаўя рэдактарам пачаўшай выхадзіць у гэты час адзінай у Вільні беларускай часопісі „Гоман“.

Прыйшлі гады страшэннай галадоўкі, калі край быў зьнішчаны вайной, ушчэнт высмактаны акупантамі, калі людзі мёрлі на вуліцы з голаду, Салавей і тады не пакінуў працы на карысьць сваей Бацькаўшчыны.

Зразумеўшы патрэбу мамэнту, ён пачынае працаваць у беларускай коопэрацыі. Як загадчык аднаго з першых беларускіх коопэратываў „Райніца“, ён шмат працы палажыў для развіцьця гэтай важнай для нас справы.

У 1924 годзе Язэп Салавей ізноў вяртаецца да газэтнай працы. У гэтым годзе пачынае выходзіць у Вільні орган беларуската лёяльнага напрамку „Грамадзкі Голас“. І вось мы бачым Салаўя на становішчы рэдактара гэтай часопісі, на якім ён застаецца да апошняга дня свайго жыцьця. Адначасна з гэтым Я. Салавей прымае актыўны ўдзел і ў палітычнай працы. Быўшы заўсёды прыхільнікам беларуска польскага паразуменьня, ён уваходзіць у новую, лёяльную беларускую арганізацыю „Часовую Беларускую Раду“, сябрам якой застаецца таксама да самай сьмерці.

Са сьмерцю Я. Салаўя беларускае грамадзянства траціць аднаго з тых карысных працаўнікоў, памяць аб якіх ня хутка загіне. Ня любіўшы ніколі выбівацца на першы плян, заўсёды застаючыся з боку, не кідаючыся ў вочы, Язэп Салавей свае абавязкі спаўняў скромна і ціха з гордай сьвядомасьцяй, што будучы адным з невялічкіх колачкаў грамадзкай машыны, ён адначасна зьяўляецца аднэй з найбольш патрэбных і акуратна функцыянуючых у гэтым мэханізме частак.

Хай родная зямелька, прымушаная насіць на сабе гэтульні пустазвонаў, будзе гэтаму безпары памёршаму працаўніку лёгкай так, як яго жыцьцё было цяжкое. Хай сьніць у ёй лепшыя дні сваей Бацькаўшчыны, дні—калі ня будзе злоснага скрыгатаньня зубоў, напасьцяў з-за вугла, ашалеўшай ненавісьці...

Хай сьніць будучыні сонечныя дні сваей змучанай, патаптанай, крывёй ахвяраў і потам непасільных змагальнікаў аблітай Бацькаўшчыны!

# Палітычны агляд.

Уся Заходняя Эўропа перажывае самую войструю форму палітычнага і эканамічнага крызісу. У газэтах і навукова-палітычных часопісях амаль што няма іншай тэмы, як перажываемы крызіс і яго прычыны.

Галоўнай прычынай эканамічнага крызіса ўсей Эўропы, ня лічучы С.С.Р.Р., ёсьць вайна, у часе якой амаль што ня ўсё золата паплыло ў Амэрыку, а сусьветныя, заэўрапэйскія рынкі былі захвачаны новымі сусьветнымі магутнымі дзяржавамі, як Амэрыка і Японія. Другой прычынай зьяўляецца павялічэньне ўплыву соцыялістаў і комуністаў, якія на практыцы нічым адзін ад аднаго ня розьняцца. У найбольш цяжкім палажэньні апынуліся тыя дзяржавы, якія прыймалі ўчасьце ў вайне, у якіх найбольш развіта прамысловасьць і ў якіх найбольшую ролю гуляюць соцыялісты і комуністы. Да гэтых дзяржаваў належаць Англія, Нямеччына, Францыя і Польшча, ня лічучы шмат меншых дзяржаваў.

Ведама, кожная з гэтых дзяржаваў мае сваю асаблівую форму палітычнага або эканамічнага крызіса ў залежнасьці ад таго, паскольку ў ёй лічацца з работніцкай клясай і што ў ёй магутней: ці фабрычна заводзкая прамысловасьць, ці сельская гаспадарка. На першым мейсцы паводле разьмераў эканамічнага крызіса стаіць Англія, якая перад вайной панавала на ўсіх сусьветных рынках. Цяпер яна павінна ўтрымоўваць на дзяржаўны кошт цэлую армію безработных і апрача таго даваць грашавую падмогу прамысловасьці, каб не давесьці да спыненьня работы на рудніках, дзеля таго, што рабочыя катэгарычна адмовіліся ад паніжэньня заработнай платы і павялічэньня рабочага дня. Мэта рабочых, соцыялістаў і комуністаў выразная: давесьці капіталістычны лад да гэткага стану, каб лягчэй было зрабіць соцыяльны пераварот. І ангельскі ўрад, ня гледзячы на тое, што мае значную консэрватыўную большасьць у палатах, не адчувае сябе гэтулькі дужым і сьмелым, каб апавесьціць адкрытую барацьбу рабочым, як гэта зрабіў Муссоліні ў Італіі, або нямецкі ўрад у Нямеччыне. Але толькі Англія можа пазволіць сабе на гэткія ўступкі для рабочых і можа ня рызыкуючы цэласьцю і незалежнасьцю дзяржавы перажываць эканамічны крызіс, маючы масы сабраных сталецьцямі капіталаў і матэрыяльных цэннасьцяў. Усё гэта багацьце дасьць Англіі магчымасьць перажыць крытычны мамэнт, пакуль не прыдуць нейкія зьмены звонку або ўнутры края.

У гэткім больш-менш палажэньні апынулася й Нямеччына, у якой лік безработных больш за 1 з палавінай мільёна. Апрача таго яна мае гэтулькі-ж ваенных інвалідаў і павінна плаціць контрыбуцыю пераможцам. Але, ня гледзячы на ўсё гэта, палажэньне Нямеччыны ня лічыцца безнадзейным, дзякуючы вялізнай творчэй сіле нямецкага народа. Перш за ўсё Нямеччына ня мае ваенных даўгоў, як Англія, Францыя, Італія ды інш. дзяржавы, якія павінны плаціць больш працэнтаў ад сваіх далгоў Амэрыцы і адна аднэй, чымся Нямеччына ваенных контрыбуцыяў. Апрача таго, пазбаўленая права ўтрымоўваць вялікую армію і ваенны флот, Нямеччына аслабанілася ад вялізных непрадуктыўных расходаў на зброеньне, якія ў яе суседзяў састаўляюць адзін з найбольш аграмадных дзяржаўных расходаў. Гэта пазволіла немцам наладзіць амаль што поўны даваенны гандлёвы флот і зусім наладзіць чугуначны рух. І цяпер, ня гледзячы па вельмі цяжкі эканамічны крызіс, палажэньне Нямеччыны не безнадзейнае. У мінулым годзе даход дзяржавы быў большы за разход на 90 мільёнаў марак. У 1924–1925 г. ўзапраўдныя даходы былі большыя за расходы на 2 мільярды марак. Летась у лістападзе было ў абароце 5 мільярдаў марак, якіх пакрыцьце ў золаце і чужаземнай валюце даходзіла да 1 з паловай мільярда марак. Дабываньне каменнага вугальля, жалеза і сталі большае навет чымсь ў 1913 г., ня гледзячы на ўтрату часткі прамысловых вокругаў на карысьць суседзяў. Паскольку працаздольны і крэдытаздольны немцы вілаць з таго, што іхні бюджэт даходзіць да 13 мільярдаў марак у той час, як бюджэт Польшчы за сёлетні год даходзіць толькі да 1 з паловай мільярда злотых. Нямецкая марка ў паўтара раза даражэйшая за польскі злоты, а насяленьне Нямеччыны даходзіць да 63 мільёнаў, у той час як у Польшчы — 28 мільёнаў.

Адным словам жыхар Нямеччыны лягчэй дае сабе раду з платай даўгоў у 4–5 разоў большых, чымсь жыхары Польшчы. Дзеля гэтага Нямеччына можа лягчэй перанасіць перажываемы цяпер крызіс.

А што датычыцца фінансавага крызіса ў Францыі, аб якім ужо шмат разоў пісалася, дык ён узапраўды зусім не такі, якім здаецца. Гэта справядлівей палітычны крызіс, чымсь фінансавы, або эканамічны. На парлямэнцкай арэне ідзе рашучае змаганьне буржуазных і работніцкіх партыяў. На апошніх выбарах левы блёк і асабліва соцыялісты перамаглі дзякуючы таму, што абецалі сваім выбаршчыкам паменшыць падаткі.

І цяпер урад левага блёку, апіраючыся на радыкалаў і соцыялістаў, апынуўся ў цікаўным становішчы. Соцыялісты, на нядаўна адбыўшымся конгрэсе, большасьцю галасоў вынесьлі пастанову проці ўчасьця ў кабінэце, каб не прыймаць на сябе адказнасьці. Далей соцыялісты проці павялічэньня падаткаў, дзеля таго што яны ня могуць не датрымаць абецанак, якія далі сваім выбаршчыкам, бо цадарвалі-бы сваю пазыцыю ў будучыне. Калі-б гэта й было праведзена ўрадам пры падтрыманьні опозыцыі, дык як-ні-як гэта будзе зроблена бяз згоды соцыялістаў, якія наагул выступаюць проці ўсіх фінансавых праэктаў міністраў скарбу. Пайшлі ў адстаўку гэткія выдатныя фінансісты, як міністар фінансаў Кайо і Лушэр. Пэнлевэ нічога не зрабіў і здаецца што нічога ня зробіць і цяперашні міністар фінансаў

# Проці „зьменавехаўцаў“.

Мы ўжо пісалі аб тым, як рэагавалі на факт агіднага „зьменавехаўства“ Цьвікевіча і інш. выдатныя беларускія дзеячы, студэнцтва і прадстаўнікі нашай эміграцыі.

А вось цяпер № 2 „Бюлетэню заграпічнай групы беларускай партыі соц.-рэвалюцыянэраў“ падае цікавую корэспандэнцыю з Прагі, якая вельмі яскрава малюе адносіны беларускай калёніі ў Празе да гэтых здраднікаў беларускай нацыянальнай справы. Як відаць з корэспандэнцыі, ў гэтую „пачэсную“ кумпанію трапіў і наш стары знаёмы п. Пракулевіч. Мы ўжо даўно прарокавалі, што Пракулевіч пойдзе гэтым шляхам і дзеля гэтага яго пераход да бальшавікоў нас зусім ня дзівіць.

Вось што піша „Бюлетэнь“:

„12 сьнежня г.г. адбыўся агульны гадавы сход сяброў Беларускай Рады ў Празе, на якім справаздаўчы даклад аб дзеяльнасьці Рады за мінулы год рабіў старшыня прэзыдыума Л. Заяц. З яго дакладу выявілася, што ў параўнаньні з культурна-грамадзкімі арганізацыямі іншых нацый, Беларуская Рада ў Празе дасягнула вельмі мізэрных вынікаў свае дзеяльнасьці. Прычына гэтага, як аднагалосна была сьцверджана выступаўшымі прамоўцамі—няшчырае і нявыразнае аблічча грамадзян Л. Зайца, У. Пракулевіча і А. Дыліса, якія складалі большасьць прэзыдыуму Рады. Яны прымалі вучасьце у падрыхтоўцы і скліканьні бэрлінскай „нарады“ (галасавалі за зьменавехаўскую рэзалюцыю і гэтым санкцыянавалі авантуру Я. Цьвікевіча), хаваючы пад індыфэрэнтнасьцю да беларускай культурна-грамадзкай справы на эміграцыі нейкія іншыя заданьні... Вось чаму пасьля гэтага ды шмат іншых зусім слушных закідаў Л. Зайцу, У. Пракулевічу і А. Дылісу было вынесена недаверра і была прынята рэзалюцыя, ў якой гаворыцца: „Агульны Сход выяўляе абурэньне супроць падобнай дзеяльнасьці сяброў, займаўшых адпаведнае становішча ў беларускім грамадзянстве і Беларускай Радзе ў Празе; *дзеля захаваньня добрага імяні Беларускай Рады ў Празе, выключае іх (гр. Зайца, Пракулевіча і Дыліса) са сьпіску сяброў апошняй*“. Прысутныя на паседжаньні Рады іх аднадумцы па зьменавехаўству (У. Жылка, Л. Мэнке ды інш.), у адказ на гэту пастанову Рады, паднялі гоман і пачалі рабіць непарадак, за што прысутным паліцэйскім чыноўнікам некаторыя былі выведзены з салі паседжаньня. У новы прэзыдыум Рады выбраны: В. Захарка—за старшыню, Вяршынін—нам. старшыні, Лаўскі—пісарам, М. Каберац і В. Грышкевіч — сябрамі прэзыдыуму. У надзорчую камісію: В. Русак, М. Гарошка і М. Гузоўскі. Трэба адзначыць пры гэтым, што В. Захарка, пасьля таго як быў выбраны за старшыню прэзыдыуму Рады, сказаў гарачую прамову, ў якой выразна зазначыў аб сваім незалежніцкім становішчы. У сучасны мамэнт Рада налічвае да 30 чынных сяброў. Настрой апошняга сходу і тая рэарганізацыя, якая адбылася, запэўняюць, што дзеяльнасьць Рады, як адзінай беларускай культурна-грамадзкай арганізацыі ў Празе, прыйме, нарэшце адпаведны кірунак і аб'еднае ўсю беларускую эміграцыю“.

Далей, у артыкуле „Скачы ўража, як пан кажа“ „Бюлетэнь“ піша ўжо ад сябе:

„І той, хто хоць трошкі можа чэсна думаць, той уцяміць, што гр. А. Цьвікевіч паехаў у Радавую Беларусь не для таго, каб служыць справе вызваленьня і адраджэньня беларускага працоўнага народу, а на службу да маскоўска-бальшавіцкіх грабіцеляў. Толькі гэтак можа быць кваліфікавана яго сучасная дзеяльнасьць, а разам з ім і тых, „якія знаходзяцца яшчэ ў дарозе“.

Як бачым адносіны „эсэраў“ да зьменавехаўства зусім аднолькавы з нашымі, хаця нас ніштo і не вяжа з „эсэрамі“.

Цікава параўнаць гэтыя адносіны з запросінамі „да дому“ і вітаньнем „зьменавехаўства“ Віленскім Белкомам, на шпальтах памёршай газэты „Жыцьцё Беларуса“ № 7.

**БЛАСКО ІБАНЭЗ.**

# ДАЧКА ВЕДЗЬМЫ.

*(З гішпанскага).*

*(Працяг).*

На вузенькіх, глыбокіх ды крывых вулачках мястэчка было ўжо надта цёмна. Апошнія дамочкі разьбегліся ў два бакі, цягнуўшыся ўдоўжкі шырокай, роўнай дарогі. За імі блакітнелі ў зьмерку палі, пакрытыя маладым збожжам, а ў далі на белай істужцы дарогі, чарнелі маленькія, быццам мурашкі, фігуры жанчын, нёсшых на галазах кошыкі і сьпяшаўшыхся да бліжэйшай вёскі, адкуль было чутно манатонны голас вячэрняга званочка. Апошнія чырвоныя косы захадзіўшага сонца заламліваліся на залатым крыжы касьцёла. Мар'етта была бойкая жанчына. Аднак, бачучы, што засталася адна на гэтай белай пустой дарозе, пачула, што дзіўны ляк сьціскае яе за сэрца. Да хаты было яшчэ вельмі далёка; настане цёмная ночка, пакуль вернецца дамоў.

На дзьвярох аднага з домаў хісталася ссохшая аліўная галіна: гэта быў знак, што тут шынок. Пад ёю, павярнуўшыся сьпіной да вёскі, стаяў малы чалавечак, трымаючы абедзьве рукі ў кішанёх.

Мар'етта глянула... Калі-б вось, адвярнуўшыся, пабачыла дзевера — Божанька мой!.. Будучы пераконана, што ён далёка адсюль, ішла спакойна, усьмяхаючыся, што магла нават падумаць аб спатканьні з ім у гэтым пустыры. Ня гледзючы аднак на гэту пэўнасьць, задрыжала, падумаўшы, што можа чалавек, які стаяў на парозе шынка, быў братам яе мужа. Хутка прайшла міма, не падыймаючы вачэй.

— Добры вечар, Мар'етта!

Гэта ён.. Страшэнная запраўднасьць глянула ей у твар; нельга было сумлевацца. Гэта быў узапраўды Пэнляй, бандыт са злой усьмешкай, якога вочы больш наганялі страху, чымсь словы.

Зламаўшымся, голасам адказала яна на яго павітаньне. Высокая, сільная жанчына пачула, як калены яе задрыжэлі і не хапала сілы, каб утрымаць на руках дзіця.

Пэнляй ціха сьмяяўся. Чаго-ж яна гэтак баялася? Няўжо-ж яны не сваякі? Надта цешыцца, што спаткалася з ім: ён праводзіць яе да хаты, а па дарозе пагутараць аб розных справах.

— Хадзі! Хадзі! — казаў малы чалавечак.

Ішла за ім паслушная як авечка, якую вядуць у бойню. Як-жа дзіўнае было гэта параўнаньне! Высокая, сільная, добра збудаваная, мускулістая жанчына ішла паслушна за Пэнляем, які з вонкавага погляду быў толькі малы, худы і брыдкі чалавек. Злы бліск прыплюшчаных вачэй паказваў, хто ён быў узапраўды. Мар'етта добра ведала, да чаго ён здатны. Сільныя, адважныя людзі падалі ахвярамі гэтага злога страхацьця.

На парозе апошняй хаты ў мястэчку сядзела старая баба,ківаючыся і пяючы сабе пад носам.

— Баба! Баба! — клікнуў Пэнляй.

Старая кінула мятлу, якую трымала ў руцэ і падыйшла. Дзевера Мар'етты добра ведалі ўва ўсей ваколіцы. Калі ён клікаў, трэба было слухацца.

Пэнляй вырваў дзіця з рук удавы і навет не глянуўшы на яе, перадаў хлапчука старой бабе... Толькі на поў гадзіны!. Зробяць сваё дзела і вернуцца забраць дзіця.

Мар'етта, заліваючыся сьлязьмі, кінулася да сынка, каб яго абняць.

Пэнляй жорстка схапіў яе за руку.

— Ідзем! Ідзем!

Зьмяркалася. Пад уплывам гэтага дзіўнага чалавека, абязьсілена страхам, Мар'етта пайшла наперад ужо без дзіцяці і бяз кошыка, а баба крэсьцючыся раз за разам хутка ўцякла да хаты.

На белай паласе дарогі, блісьцеўшай сярод цемры, слаба відаць парушныя чорныя пункты. Гэта былі жанчыны, якія ўжо прыбліжаліся да вёскі. Надыходзіла ноч. Па палёх валачылася шэрая вячэрняя імгла, лес рабіўся цёмна-сінім, а ў гары, на гарачым фіялеце неба зазіхацелі першыя зоры.

Нейкі час ішлі моўчкі. Раптам удава затрымалася з рашучасьцю роспачы... Таксама добра тут, як і ў іншым месцы, ён мог сказаць ей у чым справа. Калены Мар'етты дрыгаталі, згібаліся. Рваўшымся шопатам, ня гледзячы на дзевера, з вачыма апушчанымі ў зямлю, пачала гаварыць.

Думэр. Вось ужо больш як поў году як французскі ўрад трапешчыцца на месцы з фінансавымі праэктамі, не пасунуўшы фінансавага крызіса ані на адзін крок наперад. І гэта будзе трываць дагэтуль, пакуль сацыялісты будуць мець сякі-такі ўплыў на дзяржаўныя справы. З гэтага боку палажэньне Польшчы шмат падобнае да палажэньня Францыі. Але эканамічнае і фінансавае палажэньне яе шмат цяжэйшае за палажэньне Англіі, Нямеччыны і Францыі. Але аб гэтым у другі раз. У канцы скажам толькі пару слоў аб Італіі.

Што б ні пісалі аб фашызьме, але эканамічнае і фінансавае палажэньне Італіі зусім добрае і не пагаршаецца, а палепшаецца з кожным годам. А гэта толькі дзякуючы таму, што там Муссоліні даў сабе раду з соцыялістамі і комуністамі.

N.

# Апошнія навіны.

## У Польшчы.

— Група „вызваленцаў", на чале з паслом Домбскім; выйшла з партыі і стварыла новую „сялянскую" групу. Гэта група аб'едналася з групай „сялянскага саюза" пасла Брыля. У выніку гэтага аб'яднаньня паўстала новая партыя пад назовам „Сялянская Партыя".

— Рада Міністраў закончыла разгледжаньне бюджэту на 1926 год, які збалянсаваны ў суме каля 1.600 мільёнаў злотых.

— Гандлёвы бюджэт Польшчы за апошні час паправіўся. Вываз тавараў значна павялічыўся.

— У зьвязку з увaходам у Лігу Народаў Нямеччыны, Францыя падняла пытаньне аб прыняцьці ў Лігу і Польшчы. Аканчальна гэтае пытаньне аб прыняцьці ў Лігу і Польшчы будзе вырашана ў восеньнюю сэсію Лігі.

— Справа аб пазычцы ў Амэрыцы пад тытунёвую манаполію яшчэ не вырашана.

— У Варшаве, на фабрыцы артылерыйскіх ладункаў „Гранат", гэтымі днямі здарыўся выбух пораху і пажар. Ранена каля 30 работнікаў. Некаторыя з раненых памёрлі.

— За апошні тыдзень лік безработных у Польшчы павялічыўся на 12751 чал і дасягае агульнай лічбы 341 380 чалавек.

## За граніцай.

**Нямеччына**. Міністэрскі крызіс, які цягнуўся больш 3 тыдняў нарэшце закончыўся. Канцлеру Лютэру ўдалося сфармаваць кабінэт міністраў. Аднак Лютэру ня ўдалося правясьці ў жыцьцё ідэю „вялікай коаліцыі" і новы кабінэт складаецца з прадстаўнікоў правых, цэнтру і дэмакратаў.

Парлямэнт прыняў прапазыцыю нацыяналістаў аб скасаваньні закона аб абароне ў дзяржаве рэспубліканскага ладу.

**Францыя**. Фінансавая камісія парлямэнту разглядае фінансавыя праэкты мін. Думэра. Найбольш спрэчак выклікаў праэкт аб павялічэньні падаткаў. У панядзелак гэтыя праэкты павінны перайсьці на разгляд парлямэнту. Опозыцыя гатовіцца да вострых выступленьняў проці фінансавых рэформаў Думэра. У зьвязку з гэтым палажэньне кабінэту Брыана лічыцца крытычным.

**Кітай**. Паўстаў конфлікт з Саўдэпіяй, якая пагражае аружна выступіць проці Кітая. Хатняя вайна ідзе далей. Есьць чуткі што Японія шыкуецца да заняцьця некаторых правінцыяў Кітая. Ў зьвязку з гэтым Амэрыка паслала ў кітайскія воды свой флот.

**Англія**. Занепакоеная пагрозай аружнага выступленьня С.С.Р.Р. у Кітаі, Англія запрапанавала Амэрыцы і Японіі супольна выступіць у Кітаі і дапамагчы гэн. Чанг-Тсо-Ліну.

**Вэнгрыя**. У справе сьледзтва аб фальшываманэтчыках ідуць спрэчкі паміж вэнгерскімі і французкімі сьледчымі ўладамі. Французы дамагаюцца дапросу цэлага шэрагу гэткіх „высокіх" асобаў, як начальніка дзяржавы Хорці, прынца Альбрэхта і інш. а вэнгерцы лічаць, што дапрашываць гэтых асоб не патрэбна. У гэтай справе была зроблена інтэрпэляцыя ў парлямэнце. Опозыцыя зрабіла абструкцыю і дабілася вызначэньня спэцыяльнай парлямэнцкай сьледчай камісіі, якая ўжо распачала сваю працу.

**Бэльгія**. Памёр нацыянальны герой Бэльгіі кардынал Мэрсье, які праславіўся сваім патрыатызмам у часе сусьветнай вайны.

# Агляд прэсы.

Экскурсыя паслоў польскага Сойму ў Саўдэпію нарабіла шмат шуму ў прэсе з таго і з гэтага боку кардону. Супрацоўнік менскай газэты „Młot" праціснуўся ў вагон, у якім ехалі дэпутаты і там на ходу інтэрвіруе іх, даючы пытаньне аб эканамічным палажэньні сялянства ў Польшчы, аб зямельнай рэформе, аб безработцы і г. п. Паслы, ведама адказваючы на гэтыя пытаньні малявалі палажэньне ў Польшчы ў якнайбольш чорных колерах.

Віленскае „Słowo" аб гэтай-жа экскурсыі піша:

# Што бачыў у горадзе Кандрат!

*Ні то паэма, ні то байка a'la Крылоў).*

„Група соймавых паслоў паехала ў Саўдэпію для „азнаемленьня"... (З газэт).

— Здароў! Як маеся, сябрук?
Спаткаўшы ў горадзе Кандрата,
Вітаўся зьдзіўлены Пятрук.
— Што робіш тут? даўно ўжо з хаты?
У горад як жа ты дабраўся?
— Сюды даўно ўжо я зьбіраўся.
Цікавы горад быў пабачыць,
Як тут і што—дазнацца значыць.
Да гэтых пор усё аднак,
Паехаць не ўдалось ніяк.
Аж тут нядаўна Шлёмка наш,
— Млынар, ты-ж ведаеш яго?
Сюды паехаў на кірмаш
Купіць сабе таго-сяго.
(Цяперака ён, гад, багаты!)
Дык вось, зьвярнуўшыся да хаты,
Ен трое дзіваў насказаў,
Быццам цуды аглядаў
Прывезены што да вас тут
Ў нямецкім нейкім кут... кут... кут...
— А мо ў кунсткамэры?—Во-во!
Дык вось пачуўшы ад яго
Пра гэты цуды я дальбог,
Стрымаць цікавасьці ня мог.
Засела думка ў галаве:
Ў горад... ў горад... Вохці мне!
Пачаў па крышацца зьбірацца...
А тут—ну трэба-ж гэтак стацца!
Як раз і Шлёмка ўвязаўся.
Прыйшоў і просіць, каб я ўзяўся
Муку яго сюды даставіць.
Вось брат думаю—дык лоўка!
Магў інтэрасы паправіць:
Ў машну ўлезе залатоўка,
Лый ваш кунст магу пабачыць...
Гэткім чынам вось я значыць
Ў вас тутка і апынуўся...
— Ну як жа горад? Спадабаўся?
— Нішто, паскольні аглянуўся —
Даволі пекным паказаўся.
Хоць я па вуліцам ўсе болей,
Аднак—наглед зіўся даволі.
Царквы, дамы—усё палацы!
Сады на вуліцах... Вось працы
Паложана людзкой на гэта!
І выдумкі-ж! Вось хоць карэта—
Бяз коні прэцца, быццам бес
У яе калёсы ўлез...
А людзям тутка дык здаецце
Надта добра ўсім жывецца.
Ўсе так весела сьмяюцца,
Беднякоў відаць німаш,
Ўсьцяж на вуліцах таўкуцца,
Ні то хвэст, ні то кірмаш...
Ня то на вёсцы—і... куды!
— А ў кунсткамэры-ж ты быў?
— Але, хадзілі і туды,
Дзякуй Шлёмка ўсё вадзіў.
— Патрапіу значыць. Добра гэта!
Шмат цікавых там прадметаў!
Агледзіў ўсё, ці не? Кажы!
— Усё, а як-жа. Старажы,
Вось што пры ўходзе нас спаткалі
Усё як ёсьцькі паказалі.
І сапраўды ёсьць што пабачыць
Дык вось: гляджу, а ён тлумачыць
Агледзіў гэтак усё як сьлед,
На ўсе бакі кожны прадмет.
І дзіў-жа ёсьць на Божым сьвеці!
Вось так у жыцьці і не прыкмеціш
З цікавага амаль нічога.
А як зьбярэ хто мала-многа,
Дык ажна рот адчыніш з дзіва
Ды як стоўп стаіш маўкліва!..
— Чакай, чакай! Ты папарадку
Кажы, што бачыў ад пачатку.
— Га! на ўспаміны я, брат, цяжкі!
Аднак як помню: там букашкі,
Казяўкі, блохі на'т і мушкі,
Зьвяры заморскія і птушкі...
Не прапусьціў я брат нічога,
З найбольшага й да малога...
— Ну, а аддзелы са скацінай
Ці бачыў? Слон як спадабаўся?
Ма' быць вельмі напужаўся,
Спаткаўшысь з такой махінай?
—Сло—он? А там ён? Можна ўбачыць?
— Дык ты слана ня бачыў значыць?
Ды як-жа-ж так: хадзіў, хадзіў,
Казявак на'т не прапусьціў,
Найцікавейшага-ж не бачыў...
— Ды што-ж я тутка вінаваты?
Казаў ўсё сторож, што тлумачыў
(Каб ён ня бачыў сваей хаты!)
Слана-б я вось як род пазнаў,
Яго-ж гад той не паказаў...

*Б. Друцкі.*

Экскурсыя Соймавых паслоў
Саўдэпскі рай паехала бачыць.
Што-ж: не трацячы лішкі слоў,
Вынікі можна прадбачыць.
Пакажа хітры ім Саўдэп
Палацы, войскі, ну й свой Нэп!
А вось народ як там жыве —
Дык не пакажуць пэўне, не!
І будуць знаць—што ім там скажуць
Бачыць тое, што пакажуць.
З паездкі будзе рэзультат —
Як меў з кунсткамэры Кандрат!

*Б. П.*

---

У далёчку зьвянелі званочкі кароваў, варочаўшыхся з поля. Вецер прынасіў здалёк галасы, разьбіваўшыя цішу.

Мар'етта ў роспачы глянула на дарогу. Нікагусенькі! Былі зусім адны.

Пэнляй казаў памалу, усьміхаючыся як чорт... Хацеў ей толькі сказаць, каб памалілася: калі-ж баіцца, дык хай закіне на галаву хвартух. Бязкарна нельга забіваць брата гэткага як ён чалавека.

Мар'етта кінулася ўзад з пачуцьцём чалавека, якога грымот будзіць ад страшэннага сна да яшчэ страшнейшай запраўднасьці. Яе думкі зблытаныя перапудам, у працягу таго часу, як яны разам ішлі, тварылі найстрашнейшыя вобразы таго, што яе чакае. Прадбачыла зьдзек, біцьцё, прадчувала ўдары кіём, акалечанае цела, павырываныя валасы; але... памаліцца, закрыўшы галаву хвартухом, і памерці! І гэтыя страшэнныя словы сказаны гэтак спакойна! Яна засыпала яго славамі просьбы, дрыгатаўшая, залітая сьлязьмі, старалася парушыць сэрца Пэнляя. Усё, што аб ёй казалі, гэта паскудная брахня. З усей душы яна любіла яго няшчаснага брата; любіць яго заўсёды. Калі ён памёр, дык вось дзеля таго, што не хацеў яе паслухацца; а яна — яна нешчасьліва, ня мела сілы ані адвагі, каб быць для яго халоднай, вырывацца з яго аб'яцьцяў!

Бандыт слухаў маўкліва са сьмехам, які скрывіў яму твар.

— Маўчы, дачка ведзьмы!

Яна і яе маці забілі няшчаснага Пэнэта. Усе ведаюць гэта; яны давалі яму ў страве нейкую атруту... А калі-б ён сам, Пэнляй слухаў іх далей, дык і яго напэўна зачаравалі-бы. Але не! Ен не пападзе ў сеці, як ягоны брат!

І каб паказаць сваю рашучую моц, сваю сілу гіены, якая цешыцца толькі крывёй, схваціў у свае касьцістыя рукі галаву Мар'етты, прыцягнуў яе зьбялеўшы твар якнайбліжэй да свайго і праз хвіліну глядзеў у яе вялікія, бліскучыя, залітыя сьлязьмі вочы.

Ведзьма... атруціла!

Малы і слабы піхнуў гэту дужую жанчыну гэтак, што яна ўпала перад ім на калены, і адвярнуўшыся пачаў шукаць нешта за пазухай.

Мар'етта была як няпрытомная. Нікагусенькі на дарозе! Здалёк даляталі нейкія, ледзь чутныя галасы, зыкі званочкаў жывёліны, якую зачынялі на нач. З далёкіх сенажацяў вецер прынёс рэха жабячага хору. Спазьніўшыяся ластаўкі, лятучы высоко пад небам, час-ад часу шчабеталі. Недзе там, далёка, пры першых хатах вёскі брахаў нейкі сабака. Палі памалу чэзьлі ў імгле ночы.

Адна пакінутая, прыгатаваная на сьмерць засталася без ніякае гордасьці. Пачулася гэтак безабароннай і слабай, як у тыя часы, калі была малай дзяўчынкай і маці карала яе біцьцём. І горка заплакала.

— Забі мяне! — прастагнала, закідаючы на галаву чорны хвартух і засланяючы сабе ім твар.

Пэнляй прыблізіўся да яе спакойны, з пісталетам у руцэ. Праз нейкі час слухаў жаласьлівага голасу Мар'етты, якая пад чорнай заслонкай хвартуха плакала і жалілася, як малая дзяўчына, прасіла яго, каб хутчэй канчаў, каб не рабіў ей болю, пераплятаючы гэтыя просьбы малітвамі і голасячы. Рухам чалавека дасьведчанага Пэнляй знайшоў пісталетам адпаведны пункт на чорным хвартусе і два разы пацягнуў за курок.

Сярод белых клубоў парахавога дыму ён пабачыў, як Мар'етта раптам перагнулася ў зад і бяз енку ўпала на зямлю, а цела яе пачало ўздрагіваць у муках каняньня...

З супакоем чалавека, які нічога і нікога не баіцца, Пэнляй, абдумываючы як уцячы ў горы, варочаўся ў мястэчка, каб узяць пляменьніка. Беручы яго з рук спалоханай старай бабы, амаль што ня плакаў.

— Мой бедны малюсенькі! — сказаў, прытуліўшы яго да сябе.

Сумленьне яго было задаволенае і супакойнае. Душа цешылася пачуцьцём споўненага абавязку. Ен верыў, што сваім паступкам вельмі заслужыўся перад дзіцянём.

(*Канец*).

# Ад Рэдакцыі.

*З прычыны сьмерці рэдактара-выдаўца нашай часопісі на гэтым нумары спыняецца выхад „Грамадзкага Голасу". Замест „Грамадзкага Голасу" хутка выйдзе новая газэта, якая будзе разаслана ўсім падпісчыкам „Грам. Голасу".*

„Ідэя дэпутатскае экскурсыі ў Савецкую Расею радзілася колькі месяцаў назад, акурат тады, калі эндэцыя старалася ўстанавіць больш блізкія з савецкім урадам адносіны. Прэса гэтай партыі, пашыраючы думку аб наладжаньні блізкіх адносінаў з Саветамі у сваіх вывадах зьвяртала галоўную ўвагу на эканамічнае зьбліжэньне, зусім забываючыся аб небясьпецы комуністычнае прапаганды.

У гэты самы час савецкае пасольства ў Варшаве пачало сільна імкнуцца да наладжэньня контакта з соймавымі дэпутатамі. Выбар паў на Брыля, Ваяводзкага, Фідэрквіча і інш., людзей духоўна блізкіх да комунізма і асабліва чуткіх на матэрыяльныя карысьці.

Войкаў не абмыліўся. Экскурсыя польскіх дэпутатаў у працягу колькіх дзён сваей бытнасьці ў С.С.Р.Р. заявамі сваіх сяброў зрабіла больш за савецкую прапаганду... Польшча паводле слоў польскіх дэпутатаў, гэта нейкі прытон, дзе пануе тэррор, правакацыя і гвалт... Эканамічнай катастрофы Польшча не абміне, дзеля таго, што арм'я і паліцыя пажыраюць усе расходы і ніякая заграннічная пазыка ня выратуе з палажэньня. Вецама, як карыснымі для бальшавікоў зьяўляюцца гэтыя заявы...

Канчаючы свой артыкул, „Słowo" піша, што польская грамадзянская думка павінна дамагацца ад польскіх дэпутатаў пасьля іх паварота ў Польшчу самай строгай справаздачы за іхнія заявы, зробленыя ў Менску і ў Маскве.

Аб гэтым самым піша і кракаўская газэта „Czas".

„Можна напэўна сказаць, што экскурсыя не мае нічога супольнага з прыгатаўленьнямі да падпісаньня польска-савецкага гандлёвага дагавора, а зьяўляецца пэўнай палітычнай дэманстрацыяй. Савецкі ўрад, запрашаючы польскіх дэпутатаў у Маскву, хацеў дэмонстратыўна паказаць, што ён мае прыхільнікаў у польскім Сойме. А апрача таго, падтрымліваючы зьбліжэньне з радыкальнымі групамі Сойму, савецкі ўрад разьлічае памагчы арганізацыі комуністычнай партыі ў Сойме і Сэнаце. Паездка ў Маскву зьяўляецца клічам да злучэньня у Сойме ўсіх прыхільнікаў комунізма ў вадну больш сільную групу, якая магла-б павесіўшы чырвоны сьцяг з зорай, молатам і сярпом, распачаць адкрытую прапаганду ў краі.

А „Kurjer Warsz." гэтак характэрызуе рэзультаты гэтай паездкі:

„Паехаўшыя паслы пабачаць тое. што ім савецкая ўлада захоча паказаць, і, ведама, яны будуць захоплены рэзультатамі сваей паездкі. Выбаршчыкі аб гэтым пачуюць з вуснаў самых дэпутатаў пасьля таго, як яны вернуцца з Масквы і Ленінграда. Пачуюць аб ўсім у рожавых тонах. Трэба зьвярнуць увагу на будучыя выступленьні паноў паслоў. Калі Польшча ня можа атрымаць ніякае карысьці ад гэтай паездкі, дык няхай сочаць за тым, каб яна ня мела з гэтага шкоды.

# У С.С.Р.Р.

### Правал комуністаў.

Нядаўна на Савецкай Беларусі адбыліся выбары ў Саветы. Усюды, па вёсках, комуністы праваліліся. Ня гледзячы на ўсе стараньні і заходы, комуністаў прайшло нябольш 13 працэнтаў агульнага ліку выбарных. А ў з|4 вакругоў, дык нават 3-6 прац. Праўда, у гэтых вакругох выбары былі ўняважнены, але і пры новых выбарах атрымаўся гэткі самы рэзультат. Большасьць выбраных беспартыйныя. У выбарах бралі ўдзел толькі 39-40 прац. усіх выбаршчыкаў.

Відаць гэтак абрыдлі і самі комуністы і іх саветы, што і на выбары сяляне ўжо ня ідуць.

### Расстрэліваюць партызанаў.

У Іванаве-Вазьнясенску бальшавікі расстрэлялі 5 партызанаў, якія хаваліся па лясох і адтуль выхадзілі на „паляваньне" за комуністычнымі „дзеячамі".

У Вітэбску расстрэляна група паўстанцаў у лічбе 32 асобаў.

Гэтак сама шмат паўстанцаў расстрэляна ў Менску і Смаленску, але лік іх няведамы.

У канцы гэтаго месяцу ў Менску будзе разглядацца справа 92 паўстанцаў-сялян.

### Паўстанцы заварушыліся.

У начы з 2 на 3 г. студня атрад партызанаў у складзе 65 чалавек пад камандай б. царскага афіцэра Кавалёва, каля станцыі Морша напаў на цягнік. Ахрана цягніка ў ліку 20 чалавек чэкістаў была перабіта; забраны ўсе „казённыя" грошы, якія былі знойдзены у паштовым вагоне; нарэшце, пасьля праверкі дакумэнтаў, партызаны аддзялілі усіх комуністаў і пагналі іх ў сяло Страшына. Нікога з прыватных пасажыраў партызаны не чапалі.

Прыгнаўшы забраных комуністаў —у ліку 14 у вёску Страшыну—партызаны усіх іх расстрэлялі. Паміж расстрэлянымі былі: сьледавацель па асоба важным справам Слуцкага Г.П.У.—Барыс Занштайн, камісары з Мозыра: „Опродкома" — Кагановіч, „Спэцыяльнага Аддзелу"— Мальцоў, прадседацель Выканаўчага Камітэту Мозырскага раёну Муокі і 2 „Палітрукі" з Калінкавіч. Рэшта расстрэляных—камсамольцы з Жлобіна Мозыра і Калінкавіч. Партызаны былі ў вёсцы да раніцы і скіраваліся на Палесьсе. За імі ў дагонку адпраўлены сільныя атрады Г. Ц. У. з Мозыра, Жлобіна і Калінкавіч.

### Пасол Ярэміч у Менску.

Паміж іншым „Młot" піша, што ў часе прывітаньня ў Менску польскіх паслоў, выступаў з прамовай і беларускі пасол Ярэміч, які гаварыў аб „заданьнях" паездкі. Цікава аб якіх гэта „заданьнях" ён там калякаў. Нажаль „Młot" нічога аб гэтым ня піша..

Ма'быць ад скромнасьці!?

# ЖЫЦЬЦЕ ПРОВІНЦЫІ.

### Дарэмна стараюцца.

(*Мядзьведзіцкая гм., Баранавіцк. пав.*).

У апошні час у нашай гміне распачала энэргічную працу партыя польскіх соцыялістаў. Прадстаўнікі гэтай партыі езьдзяць па вёсках і робяць мітынгі. Усе яны абяцаюць залатыя горы, але мы яшчэ добра памятаем гэткія-ж самыя абяцанкі, якія нам давалі агітатары ў часе выбараў у Сойм. У той час „вызваленцы", гэтаксама як цяпер П.П.С., абяцалі нам рай. А цяпер нават і вока да нас не пакажуць. Да нас-жа даходзяць чуткі, што ўсе гэтыя „вызваленцы" парабіліся бальшавікамі. Дык цяперака мы баімся ўжо ўсіх прыезджых агітатараў. Тым больш, што пасьля кожнага гэткага „вецу" нас бяз концу цягаюць у паліцыю. Вельмі нас дзівіць і тое, што польскія соцыялісты вядуць агітацыю *парасейску*, нават бясплатна раздаюць нам расейскія кніжкі. Гэтак нядаўна раздалі нам кніжку „Борьба за землю", якую вам пры гэтым пасылаем. Просім растлумачыць нам, што гэта за работа.

*М—ін.*

### Добры прыклад

(*м. Барановічы*).

Прыпадкова давялося мне даведацца аб надта рэдкім выпадку нашага „крэсавага" жыцьця. Выпадак гэты ня толькі рэдкі, але і вельмі прыемны. Усім ведама, што нашая паліцыя надта часта робіць зусім незаконныя рэчы ў адносінах да нашых сялян. Апошнія баяцца жаліцца, бо іх жальбы вельмі часта застаюцца бяз скутку.

Нядаўна здарыўся ў нас гэткі выпадак. Паліцыя пастарунку ў Савейках зрабіла „налёт" на вёску Лапацішкі, дзе страшэнна пакатавала сялян. Між іншым паліцыянты палілі ім сьвечкамі пяткі... Аб гэтай справе паведамілі Баранавіцкага старасту п. Квіцінскага. Апошні адразу даў ход справе. Паліцыянтаў арыштавалі і нядаўна Наваградзкі Суд—разглядаў іх справу і засудзіў: Шыбка і Мадзеля на 2 гады; а Врубля і Муравіцкага на 1 год турмы.

Па загаду гэтага-ж Старасты быў разагнаны цэлы Нядзьведзіцкі пастарунак за дэбош паліцыянтаў.

*Баранавіцкі.*

*Ад Рэдакцыі:* Мы з свайго боку з задаваленьнем констатуем гэтыя факты. Была-б надта пажадана, каб іншыя нашыя адміністратары бралі прыклад з Баранавіцкага Старасты.

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

**Пахаваньне Я. Салаўя.** У аўторак 26 г.м. адбылася пахаваньне памёршага рэдактара нашай газэты Язэпа Салаўя. Шмат народу зышлося, каб аддаць апошнюю паслугу памёршаму змагальніку за беларускую справу. Паміж прысутнымі былі супрацоўнікі газэты „Грамадзкі Голас", сябры Часовай Беларускай Рады, Т-ва „Прасьвета", прадстаўнікі ад сэкрэтарыятаў Ч.Б. Рады, беларускія настаўнікі-курсанты, прадстаўнік ад газэты „Віленскае Утро" і інш.

А 2 гадзіне, пасьля набажэнства ў касьцёле Сьв. Якуба, жалобная працэсія скіравалася на Росу. На магілках, у часе пахаваньня, гаварылі прамовы: Старшыня Ч. Б. Рады—А. Паўлюкевіч і прадстаўнік ад Вялейскага павету, Старшыня сэкрэтарыяту Рады ў Ушы—Т. Вернікоўскі, якія ў цёплых словах адзначылі заслугі памёршага.

На трумну быў узложаны вянок з нацыянальнай беларускай істужкай, з напісам: „Дарагому Язэпу Салаўю ад Ч.Б Рады і рэдакцыі газэты „Грамадзкі Голас".

З прыкрасьцю мусім адзначыць, што аддаць апошнюю паслугу памёршаму беларускаму дзеячу не зьявіліся ня толькі прадстаўнікі опозыцыйнага беларускага кірунку, але не зьявіліся нават і ягоныя даўнейшыя прыяцелі і супрацоўнікі па „Грамадзянскаму Сабраньню".

**Пастановы Рады.** 21 г. м., з прычыны сьмерці сябра Ч.Б. Рады—Язэпа Салаўя, адбылася надзвычайнае паседжаньне Рады, на якім была прынята пастанова аб захаваньні пэнсіі памёршага Салаўя за яго ўдавой.

**Прыезд Т. Вернікоўскага.** Гэтымі днямі прыехаў у Вільню Старшыня Сэкрэтарыяту Ч. Б. Рады ў м. Ушы, Вялейскага пав., вядомы беларускі дзеяч, Т. Вернікоўскі. У часе свайго пабыту ў Вільні п. Вернікоўскі залатвіў шмат справаў, даручаных яму сялянамі яго вокругі, дзеля чаго рабіў інтэрвэнцыі ў вышэйшых мясцовых уладаў. На паседжаньні Рады, якое адбылася 22 г. м., п. Вернікоўскі зрабіў вельмі цікавы даклад аб пашырэньні мэтадызму і баптызму ў Вялейскім павеце, а таксама аб працы Сэкрэтарыяту. Рада пастанавіла злажыць п. Вярнікоўскаму падзяку за энэргічную працу.

**Зьезд Мэтадыстаў.** Па чуткам гэтымі днямі ў Вільні адбыўся зьезд прадстаўнікоў мэтадысткіх арганізацыяў. Апрача мясцовых мэтадыстаў на зьездзе былі прадстаўнікі провінцыяльных аддзелаў.

# ЖАРТЫ.

### Міністэрства „і".

Гутараць паміж сабою два жыдкі.

— Ці ты ведаеш, што ў Польшчы ёсьць міністэрства „і"?

— Не, ня ведаю! Што ж гэта за міністэрства?

— А бачыш: зруйнавалі ў нас прамысловасьць, зьніштожылі гандаль; дык вось — замест міністэрства прамысловасьці і гандлю" засталася ў нас цяпер толькі міністэрства „і".

### Да патрэту ў № 2 „Сялянскай Нівы".

— Важна, брат, выглядае наш пан пасол! Саўсім пан!

— Куды там пан! Гэтак не выглядае ні князяўскі эканом, ні нават сам наш пан пшадоўнік!..

**Б.**

### Калі баба — дык горш.

*Маці да сына:* Сынку. будзе няшчасьце, бо кот перайшоў мне дарогу...

*Добры сын:* А, што мама глупства кажа. Кату горшая бяда, бо яму баба дарогу перайшла.

### Мудры хлопчык.

— Мамка! — пытаецца малы сынок у маткі — чаму гэта ў нашага таты такая вялікая лысіна на галаве?

— Бо, ведаеш, сынок, ён надта разумны і многа думае!

— Ааа!—задумаўся хлопчык — а чаму-ж гэта ў мамы гэтак густа валасоў на галаве?.

*Пстрычка.*

# Юрыдычныя парады.

**Падп. Вавальчыку Б.** *Запытаньне:* Матка мая была прымачкай; памёрла ў 1907 г. засталося нас 3 дзяцей. Ў 1909 г. бацька ізноў ажаніўся са ўдавой, якая мела ўжо дзяўчыну. Ад гэтай жонкі бацька меў таксама 3 дзяцей. У 1920 г. бацька памёр. Ці маюць правы мачыха і яе дзеці на насьледзтва?

*Адказ:* Дзеці другой жонкі (мачыхі) маюць роўныя з вамі правы на насьледзтва пасьля бацькі. Дзяўчына, якую мачыха мела да выхаду замуж за вашага бацьку, калі не запісана, як яго дачка (узаконена), ці ня усынаўлённая — ніякіх правоў ня мае.

**Гр. А. А—ку.** *Запытаньне:* З пляменнікам я судзіўся аб зямле. Міравы Суд прысудзіў зямлю. Пляменнік падаў апэляцыю. Апэляцыя яшчэ ня разглядалася, як мы ўзялі ды і памірыліся. Я заплаціў частку і зямля засталася ў мяне. Тымчасам справа была разгледжана ў Акружным Судзе, які прысудзіў зямлю пляменніку. Міравая пасьведчана у гміне. Цяпер ён кажа, што зямлю адбярэ. Што рабіць?

*Адказ:* Трэ' было міравую паслаць у Суд і прасіць справу спыніць. Цяпер, калі пляменнік не згаджаецца, дык калі будуць выконваць прыгавар, падайце каморніку заяву, што вы памірыліся да Суда і да гэтай заявы далучыце міравую.

**Падп. К. Гр—ву.** *Запытаньне:* Брат, з якім мы судзімся аб гумне (справа яшчэ ня вырашана) зламаўшы мой замок на варотах гумна улез туды і злажыў сваё жыта. Як ён ламаў замок я не бачыў Але як пачаў вазіць жыта—дык я не даваў, але ён сілком улез, а мяне нат пабіў. Пры гэтым ён казаў, што мае права, бо ідзе Суд. Што рабіць?

*Адказ:* Пакуль Суд ня вышаў — права ня мае. Падайце на яго у Суд, просячы засудзіць за самавольства, а разам і за пабіцьце.

Рэдактар-Выдавец А. Чуйко.

Друкарня Я. Баеўскага.